Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар контэ паштовага разрахунку: 100

№ 5 (27) Вільня, 5 мая 1938 г. Год III

## УСХОДНЯЯ ЭЎРОПА і БЕЛАРУСЬ.

**(Да беларускай палітычнай сынтэзы).**

Вялікую раўніну, якая ляжыць паміж Уралам, Чорным морам, Карпатамі, Нямеччынай, Балтыцкім і Белым морам ў геаграфіі звычайна завуць Усходняй Эўропай. Не бяромся тут вырашаць, наколькі гэтае азначэньне Усх. Эўропы правільнае; магчыма што дакладнай граніцы, аддзяляючай Заходнюю Эўропу ад Усходняй, правесьці трудна было-б. Але мы будзем разглядаць Усходнюю Эўропу ня так з геаграфічнага або культуральнага пункту гледжаньня, як з пункту палітычнага і дэмаграфічнага. Разглядаючы гэтую раўніну з пункту дэмаграфічнага, трэба сьцьвердзіць, што яе засяляюць бадай выключна славянскія плямёны, з некаторай прымешкай на ўсходзе і поўначы фінска-тюрскіх плямёнаў, а на заходзе — літоўскіх.

На гэтай вялікай раўніне тварыліся на працягу гісторыі розныя *цэнтры* палітычна-грамадзкага жыцьця, якія імкнуліся да апанаваньня ўсяе гэтае ўсходня-эўрапэйскае раўніны, або прынамся яе частак.

Першым цэнтрам, які зьяўляецца наранііцы гісторыі, быў *Кіеў*. Заложаны няведама кім, быў заняты ў 9-тым стагодзьдзі варага-русамі, якія арганізуюць там нарманска-ўкраінскую дзяржаву. Гэтая дзяржава ад фінскага слова „Руотсі" — (гэтак фіны называлі варагаў), завецца Русь і пачынае злучаць іншыя цэнтры, якія паўсталі адначасна або і раней за Кіеў. Да гэтых цэнтраў належаў і наш *Полацк*, арганізаваны, як падаюць хронікі, таксама нарманамі-варагамі. Паміж двама цэнтрамі пачынаецца заўзятае змаганьне, якое трывае болей як праз два стагодзьдзі з зьменным шчасьцем. Чым гэтае змаганьне скончылася-б — згадаць трудна, магчыма, што Кіеў, маючы большыя матар'яльныя магчымасьці, узалежніўбы ад сябе полацкі цэнтр і здабыўбы гэгэмонію на ўсходня-эўрапэйскай раўніне. Але да гэтага не дайшло: наезд татараў у 13-тым стагодзьдзі бурыць кіеўскі цэнтр і адбірае ад яго цэнтралістычныя магчымасьці. Аслаблены (хоць цалком не пераможаны) у змаганьні з Кіевам полацкі цэнтр таксама ўжо ня змог стацца цэнтралізуючым асяродкам.

Тады вырастае новы цэнтр — *Вільня*. Гэты цэнтр быў створаны супольнымі сіламі літоўцаў і беларусаў (прыгэтым трэба адзначыць, што пачаткавы „літоўскі" цэнтр быў утвораны за Міндоўга ў *беларускім* Наваградку) і ідзе да апанаваньня Усх. Эўропы. Вільня злучае пад сваею ўладаю распыленыя беларускія, украінскія і расейскія княствы і творыць Вялікае Княства Літоўскае, якое за Гедыміна, Альгерда і Вітаўта пашырае свае ўплывы аж па Чорнае мора, бярэ Кіеў і акружвае Маскву, даходзячы аж да Разані. Аднак палітыка Ягайлы і Ягайлавічаў спыняе гэты гон віленскага, літоўска-беларускага цэнтру і пераносіць цэнтр з Вільні спачатку ў Кракаў, а потым Варшаву. Такім парадкам беларусы страцілі той цэнтр, які самі збудавалі (Полацк), і той цэнтр, які збудавалі разам з літоўцамі (Вільню).

З часам у *Варшаве* творыцца цэнтр, які імкнецца да гэгэмоніі над Усх. Эўропай. Гэты цэнтр, апіраючыся на *палітычнай уніі* з В. Кн. Літоўскім, пераймае ад яго і праводзіць далей цэнтралістычныя тэндэнцыі. *Рэлігійная унія* мае прычыніцца да пашырэньня заходніх уплываў на душу Усходу...

Але на Усходзе ўбіраецца ў сілу яшчэ адзін цэнтр — *Масква*, якая ўсей сілаю рывалізуе з Варшаваю, спачатку з зьменным шчасьцем. Быў час, калі Варшава амаль не заўладала Масквою (у часе г. зв. „Смутнае пары" на пачатку 17-га стагодзьдзя) і не пасадзіла ў Маскве каралевіча Уладыслава, якога маскоўскія баяры былі ўжо нават выбраўшы на свайго цара. Але амбіцыя бацькі Уладыслава, Жыгімонта III, які хацеў сам быць маскоўскім царом, перашкодзіла гэтаму. Далейшая рывалізацыя Масквы і Варшавы кончылася паражэньнем гэтай апошняй і падзелам Польшчы. На палітычнай арэне ўсходня-эўрапэйскай раўніны асталася адна Масква, каторая зьяўляецца валадарыняй ня толькі Усх. Эўропы, але і тварцом вялікай Расейскай імпэрыі, абыймаючай прастор ад Вялікага акіяну ў Азіі да Балтыцкага мора ў Эўропе.

Гэтак было да Вялікай вайны. Пасьля Вялікай вайны аджывае і выходзіць на палітычную арэну даўнейшая спаборніца Масквы — Варшава і зараз паміж імі прыходзіць да сьмяротнай схваткі. Пры помачы Францыі і пры вялікіх натугах польскага народу Варшава асталася на арэне і паміж гэтымі двама цэнтрамі ў сучаснасьці існуе глыбокая варожасьць, гатовая ў кожную часіну перайсьці ў аружнае змаганьне. Варшава чуецца слабейшай і дзеля гэтага некаторыя польскія палітыкі заклікаюць польскае грамадзянства да заключэньня саюзу з Бэрлінам, каб знэўтралізаваць Маскву, аддзеляючы ад яе ўсе нерасейскія народы.

Але пры падзеле Расеі паўстаўбы яшчэ адзін цэнтр — Кіеў, які меўбы за сабою каля 40 мільёнаў украінцаў. Ясна, што гэты цэнтр імкнуўся-б таксама да адыграньня вялікшай ролі ў Усх. Эўропе, як гэта было тысячу гадоў таму назад. Значыць, Беларусь апынулася-б паміж трыма цэнтрамі: Масквою, Варшаваю і Кіевам, з каторых кожны пашыраўбы свае ўплывы як найдалей на беларускія землі. Праўда, трэці цэнтр — гэта яшчэ песьня будучыні, але і яго нам трэба браць пад увагу, бо ён мае прэтэнсіі да беларускага Палесься, Бельшчыны, а нават Беласточчыны, што пры ведамай нацыянальнай дынаміцы ўкраінскага народу гразіць клопатамі для беларускага народу. Значыць, патрэбен яшчэ адзін цэнтр — беларускі, якіб узяў спадчыну па Полацку. Але гэта залежыць ня толькі ад беларусаў, але і ад іншых цяпер рывалізуючых цэнтраў: наўперад Масквы і Варшавы. Дык нам трэба разважыць пляны, сілы і магчымасьці гэтых двух цэнтраў, на восі каторых знаходзіцца Беларусь, а таксама іх адносіны да беларускай справы.

Але аб гэтым у наступным нумары.

## НАПАСЬЦЬ НА Я. КУПАЛУ.

У красавіковай кніжцы „Вістника", выдаванага ўкраінскім нацыяналістым Д. Данцовым, зьявіўся артыкул нейкага В. Піліпчука пад назовам „Ідеольог нової Білорусі? (Янка Купала)". Артыкул гэты можна падзяліць на тры часткі: уступ, „разгляд" творства Купалавага і канчатак.

У кароткім уступе аўтар кідае фразу, узятую з украінскай палітычнай брашуры, аб тым, якім гэта мае быць народ, што хоча жыць, і a priori заяўляе, што „гаварыць цяпер пра беларускую нацыю вельмі („щонайменше") рана". Дадае ён тут-жа, што Ўкраінцы маюць ляпей пазнаць Беларусаў, каб „беларуская загада (праблема) ня сталася з часам яшчэ аднэй абмылаю, грозным memento ў нашым (украінскім) выняткава далікатным геополітычным палажэньні".

Перайшоўшы да самога Купалы, аўтар тэндэнцыйна выбірае некаторыя вершы Купалавы, ў большыні з першае пары творства поэты і дзікімі выкрыкамі, бы „вожд" сапраўдны робіць аб іх свае „аўторытэтныя" заявы. Тут маем, што быццам у Купалы „зьяўляецца здаваленьне, калі ён бачыць свой народ пераможаным і ўбогім" (бач. 256) і што Купала быццам творыць штучныя абразы, апяваючы гаротнае жыцьцё беларускай масы (253) і што Купала ў беларускай мінуўшчыні нічога не знайшоў (257) і г. д. Кожны, хто хоць крыху знаёмы з творамі Купалавымі, прызнае, што ў гэтых заявах аўтаравых анічагусенькі няма праўды. Піліпчуку чамусьці трэ' было яшчэ абвінаваціць Купалу ў палітычнай аднабокасьці і вось ён выдумляе, што быццам „Купала зварочуецца адно да Беларусаў на гэты бок Сьвіслачы, дыплёматычна прамоўчуючы, што ё яшчэ „бацькаўшчына" і ў іншым боку. Адно дзеля прыстойнасьці ўздыхае і на „ўсход сонца".

У вершы „Вясна за вясною", як і ў шмат якіх іншых, Купала абураецца на сонных яшчэ нацыянальна Беларусаў, наракае на іх, крычыць, упікае, паміж іншым кажучы:

> Вам — пакорным рабом — не [вясны,
> Рукі накрыж злажыўшы чакаці,
> А пад гоман паўночнай зімы
> Яму ў полі сабе будаваці!

а аўтар усьцешыўся і борзьдзенька спяшаецца прызнаць, што „Так нядвузначна канчае Купала" (258), што быццам ён згаджаецца з гэткаю доляю свайго народу.

Але ня думайце, што аўтар артыкулу, п. Піліпчук, нам ня прыяе; наадварот, канчаючы ён смуціцца, што Беларусы ня ўзыходзяць на гістарычную дарогу сьветлай традыцыі сужыцьця з Украінцамі — ад палавіны XIV стаг. да 1569 г., пары, што пакінула па сабе архітвор — Літоўскі статут" (259). Што праўда, з Літоўскім статутам было „крышку" накш, не пара сужыцьця

вёсцы бадай што няма, а калі і зварочваюцца яны на ўсход, дык толькі таму, што жыцьцё зрабілася вельмі цяжкім, сьведамы беларус ня мае магчымасьці нацыянальнай працы і церпіць шмат прыкрасьцяў. А колькі падазрэньняў!...

Каб у нас была свая нацыянальная інтэлігенцыя, каторая-б адважна і разумна праводзіла грамадзкую дзейнасьць, закладаючы каапэратывы, супалкі, дык за імі пайшла-б і народная маса. Такая інтэлігенцыя вельмі скора здабыла-б давер масаў; але не, нажаль няма. Тыя, што вучацца ў сярэдніх і вышэйшых школах, паддаюцца таксама чужацкім уплывам, або нічога ня робяць, а калі дастаюць якую пасаду або цёплае месца, забываюцца аб беларушчыне... Народ гэта бачыць і кажа: „Няма на сьвеце праўды і справядлівасьці, няма помачы нават ад сваіх, бо і свае за цёплыя мясцы выракаюцца нас“.

Гэтак сумна прадстаўляецца жыцьцё нашай вёскі. Гэта, сказаць-б, ёсьць **нэгатыў** нашай вёскі, побач з тым **пазытывам,** аб якім пішам на іншым месцы.

## СПЫНЕНЬНЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ „БЕЛ. ГАСПАДАРСКАГА ЗЬВЯЗУ“.

Дня 15.IV сёлета, якраз ў Вялікую Пятніцу (новага стылю) Віл. Гарадзкое Стараства спыніла („завесіла“) дзейнасьць „Беларускага Гаспадарскага Зьвязу“, на чале якога стаяў закладчык яго др. Ян Станкевіч, ведамы беларускі дзяяч і філёлёг. Спынілі „Зьвяз“ з фармальных прычын — за незахаваньне некаторых артыкулаў Статуту. Цікава будзе тут адзначыць, што на 19.IV быў назначаны сход Рады „Зьвязу“, на якім меліся адбыцца перавыбары. Як мы чулі, кіраўнікі „Зьвязу“ спыненьне ўважаюць за вялікую і незаслужаную для сябе крыўду і нават не падалі рэкурсу ў ваяводзтва, уважаючы мусіць, што ўсе стараньні ў гэтым кірунку ёсьць бязмэтныя...

Спыненьне „Зьвязу“ насоўвае нам некаторыя рэфлексы. Бязумоўна, спыненьне дзейнасьці апошняй культурна-прасьветнай беларускай арганізацыі ёсьць балючым ня толькі для закладчыкаў і сяброў „Зьвязу“, але і для ўсяго беларускага грамадзянства. Праўда, пару месяцаў таму адзін бел. часапіс вельмі востра выступіў процiў ажыўленьня дзейнасьці „Зьвязу“, але ягонага голасу ніхто паважна ня браў да потым ён сам, відаць, прызнаўшы сваю памылку, надрукаваў у спагаднай форме вестку аб ажыўленьні дзейнасьці „Зьвязу“. Але мы хацелі-б тут разважаць справу „Зьвязу“ з іншага боку і спытацца: што рабіўбы „Зьвяз“, калі-б ягонай дзейнасьці ня спынілі? Ці ён меўбы магчымасьці працы, асабліва на вёсцы? Вось здаецца, што не. Калі-б нават улады і зарэестравалі адзін-другі гурток (хоць пры цяпёрашніх адносінах да бел. справы гэта выглядае непраўдападобна), то разьвіць шырэйшую дзейнасьць ня было-б магчымасьці.

## ЗАБАРОНА ВЫДАВАЦЬ „ЗОЛАК“.

Група бел. эсэраў (сацыялістаў-рэволюцыянэраў) пастанавіла ўзнавіць выдаваньне свайго органу „Золак“, які выходзіў непэрыядычна (апошні нумар выйшаў у чэрвені 1936 г., рэцэнзію аб ім зьмясьціў у 2 нумары „Б. Фр.“ з тагож году). З гэтай мэтай у Віл. Гарадз. Старастве была пададзена заява аб узнаўленьні часапісу, але Старастава выдаваць забараніла, матывуючы тым, што ўжо нехта другі падаў заяву аб выдаваньні часапісу пад гэтакім самым назовам...

## ЦЫТАТЫ Ў „КАЛОСЬСІ“.

У апошнім нумары „Калосься“, які выйшаў нядаўна, зварочвае ўвагу вялікая колькасьць цытатаў у чужых мовах. Аднак цэлую сэнсацыю выклікала на віленскім грунце цытата з кітайскай газэты „Гунбао“, паданая ў... расейскай мове. Чаму ў расейскай, а не беларускай або кітайскай? Усім-жа навукоўцам ведама, што патрэбныя мясцы цытуецца або ў арыгінале, або ў перакладзе на тую мову, у якой друкуецца часапіс, значыць, у даным выпадку ў беларускай мове. А калі не ў беларускай, дык на добры лад трэба было-б падаць у кітайскай, што пры ўнівэрсальнасьці рэдактара „Калосься“ не станавіла-б большай труднасьці... А так выглядае, што праўда пры Меншыкавым, які ў „Новым Времени“ пісаў, што кітайцы — гэта тыя-ж самыя „русскіе“, толькі акітайчаныя!...

# На міжнародным грунце

### Вялікая дыпляматычная ігра.

У красавіку адбывалася вялікая і глыбокая дыпляматычная ігра, якая мела на мэце перамяніць уклад палітычных сіл у Эўропе. З аднаго боку — паразумленьне паміж Англіяй і Італіяй і спробы паразумленьня паміж Італіяй і Францыяй (тут галоўным іграцом быў Муссоліні), а з другога боку — акружваньне Чэхаславаччыны і пагроза для яе незалежнага існаваньня (тут галоўным іграцом быў Гітлер). Апроч гэтых двух іграў адбывалася яшчэ трэцяя, можа найважнейшая: акружваньне Нямеччыны. Тут іграцамі былі ўсе суседзі Нямеччыны, якія спужаліся разросту яе магутнасьці, у першую чаргу Польшч, Румынія, Францыя, якія хочуць перацягнуць на свой бок Вугоршчыну, Югаславію і Італію... За дыпляматычнай ігрой трэба сьлядзіць з вялікай увагай, бо яна мае аграмаднае значэньне для будучага ўкладу паліт. сіл у Эўропе. Даволі сказаць, што пры помачы дыпляматычнай ігры Гітлер збурыў пакт, заключаны ў 1925 г. у Лёкарно, які гвараntаваў ненарушальнасьць Нямеччынай усіх заходніх граніц, пры помачы дыплям. ігры Гітлер увёў сваю армію ў здэмілітарызаваную надрэйнскую правінцыю і загразіў Францыі; праз саюз з Італіяй зламаў г. зв. фронт Штрэзы (саюз Італіі, Францыі і Англіі), які гвараntаваў незалежнасьць Аўстрыі і ўрэшце правёў аншлюс Аўстрыі, цяпер-жа ўзяўся за Чэхаславаччыну. Ігра ў гэтай справе мае вырашыцца ў Рыме, ў гутарках Гітлера з Муссолінім. А Муссоліні правадзіць цяпер пры помачы дыпляматычнай ігры прызнаньне за ім Абісыніі і правоў на Міжземным моры, прывілеяў у паўночнай Афрыцы, Чырвоным моры і Суэскім канале, кудою праходзіць важны стратэгічны і гандлёвы шлях. Праўду кажучы, найболей у гэтай ігры здабыў Гітлер: ён без праліцьця крыві здабыў цэлую Аўстрыю, тады калі Францыя для здабыцьця Эльзас-Лётарынгіі патраціла толькі крыві і капіталу! Карыстаючыся з варажнечы паміж Англіяй і Італіяй, ён увёў войска ў Надрэнію, а ўканцы заняў Аўстрыю! Але гэты апошні акт напужаў нават Муссолiняга, які пачуўся слабейшым за свайго кампаніёна і — пашукаў саюзу з Англіяй.

### Паразумленьне Англіі з Італіяй.

Аб прычынах гэтага паразумленьня мы пісалі ў прадапошнім нумары „Б. Фр.“, паказваючы на эканамічныя труднасьці Італіі і на палітычныя Англіі, цяпер адзначым толькі тое, што Муссоліні пачаў шукаць згоды з Англіяй тады, калі Гітлер заклікаў да сябе б. канцлера Аўстрыі Шушнінга. Спачатку Англія ня верыла ў шчырасьць кроку Муссолiняга, але пасьля аншлюсу, калі Італія пачулася слабейшаю за Нямеччыну, паверыла і пачала перагаворы, якія 16.IV.38 былі скончаны і ўмова падпісана.

Якія-ж варункі гэтай умовы?

Англія і Італія маюць роўныя правы на Міжземным і Чырвоным моры (дагэтуль была там перавага Англіі); абедзьве дзяржавы паведамляюць сябе аб рухах войскаў, новых лётнішчах і ўкрапленьнях пры гэтых морах; Італія прызнае пануючае палажэньне Англіі пры выхадзе з Чырвонага мора ў Індыйскі акіян (горад Адэн) і пратэктарат Англіі над Арабіяй; Англія дае Італіі поўную свабоду плаваньня праз Суэскі канал; абяцае правесьці праз Лігу Народаў прызнаньне за Італіяй захвату Абісыніі; Італія абяцае адклікаць сваіх

# З Савецкай Беларусі.

Некалькі гадоў таму кам. улады правялі рэформу беларускай граматыкі і правапісу ў тым кірунку, каб бел. мову прыбліжыць да расейскай. Цяпер маюць ісьці яшчэ далей і скасаваць у пісьме адну з найболей характэрных азнак бел. мовы: г. зв. „аканьне“, паводле якога ненаціскныя „о“ і „э“ выгаварываюцца і пішуцца як „а“. Дзеля гэтага ў Саветах трэба будзе пісаць не „вада“, а „вода“; не „галава“, але „голова“ і г. д.

фікцыі, а не даючы ім узамен хаця-б гаспадарчага дабрабыту. Камуністаў маем менш, чым гэта некаму здаецца. Але, напрыклад, абсурдальны паліцыйны прымус перамалёўваньня беларускіх хат на-бела часта перамалёўвае аднačасна пракананьні іх уласьнікаў на-чырвона. А дык-жаж бяленьне хат і адходнікаў—гэта толькі адзін з найменшых і найнявіньнейшых прыкладаў“.

Гэтак апісвае нашу вёску п. Мацкевіч. Трэба сказаць, што ягоны малюнак, апрача некаторых штрыхаў, згодны з праўдай. Значыць, некаторыя польскія дзеячы дасканальна знаюць палажэньне нашай вёскі, хацелі-б нешта для яе зрабіць—і ў рэзультаце ня робіцца нічога. Чаму? Ці на перашкодзе стаіць тупая нашая бюракрацыя? Не, бо бюракрацыя на ўсім сьвеце тупая: яна ня мае ініцыятывы, дый ня можа яе мець, боючыся адказнасьці за „сваю“ палітыку! Дык дзе прычына гэтакіх адносін да нашага народу? На гэтае пытаньне мы адкажам іншым разам, а цяпер скажам толькі тое, што галоўная прычына ляжыць у **фікцыі** палітыкі польскага нацыяналізму, якая не прызнае **факту** існаваньня беларускага народу. На гэтай галоўнай фікцыі будуюцца ўсе іншыя фікцыі, аб якіх гаворыць п. Мацкевіч. Іншыя польскія дзеячы, праўда, прызнаюць існаваньне беларускага народу, але твораць іншую фікцыю: магчымасьць спалянізаваньня беларускай народнай масы! Характэрная рэч, што творачы гэтыя фікцыі, польскія палітыкі аднačасна баяцца беларускай масы, пры гэтым кажуць: і хто-ж яе ведае, што яна думае, гэтая маса! У польскія арганізацыі ня ідзе, не палянізуецца, не адчувае сувязі з Польскай Дзяржавай (як кажа п. Мацкевіч), мае ўсходнія сымпатыі — і рабі што хочаш! Гэтакія разважаньні можна пачуць ад польскіх дзеячоў на бел. землях.

* * *

Цяпер пададзём яшчэ адзін голас, які паходзіць з левых польскіх кругоў, іменна, голас „Kurjera Powszechnego“, органу віл. левай санацыі (з якім у сваім часе „Шлях Моладзі“ навязваў гутаркі). Восьжа гэты орган у нумары 77 з дня 20. III. сёлета зьмясьціў вялікі артыкул пад шмат гаворачым загалоўкам „Walka z Pahubą“. Пад словам „Пагуба“ (ад беларускага „пагубіць“) аўтар артыкулу, п. Вышамірскі, разумее беларускую вёску, усе крэсы, бо Пагуба — гэта сымбаль, кажа аўтар. ( Слова „Пагуба“ аўтар узяў з верша польскай пісьменьніцы Добачэўскай, у каторым яна апісвае беларускую вёску Пагубу). Восьжа паводле п. Вышамірскага Пагуба мае ў сабе дзіўную, таёмную сілу прыцягваньня і ўсосваньня чужых істотаў, якія з ёю сатакнуцца, так як тое тапелішча, якое ўсосвае ў сябе людзей. Чаму гэта, пытаецца аўтар, прыезны чалавек з іншых дзялянак Польшчы так скора, бо ўжо па некулькіх гадох, асымілюецца на беларускіх „крэсах“ і гіне, тады калі ў іншых дзялянках Польшчы, хоць і болей культурных, прыезныя людзі гэтак скора не зрастаюцца з навакольнасьцю?—Робіць гэта тутэйшая прырода, адказвае аўтар, прырода яшчэ няўцывілізаваная і дзеля гэтага болей першабытная і болей беспасярэдна дзеючая на чалавека, болей элемэнтарная ў сваіх сілах, фармуючых кожны жывы арганізм, каторы да іх прыбліжаецца... Далей аўтар стараецца разьвязаць дзьве загадкі: адну — чаму беларушчацца літоўцы, а другую — чаму беларушчацца асаднікі. На першую загадку п. Выш. адказвае так: літовец дзеля таго прыймае бел. мову, што для яго яна служыць спосабам паразумленьня ня толькі з беларусамі, але і з палякамі, якія бел. мову лягчэй зразумеюць за літоўскую—дык літовец, прысвойваючы сабе беларускую мову, выбірае найлягчэйшую дарогу, гэтым самым паступае практычна і эканамічна. Разьвязваючы другую загадку, іменна, чаму беларушчыцца польскі асаднік, п. Выш. прыходзіць да таго пракананьня, што беларушчына — гэта першабытная сіла, сіла зямлі і прыроды, гэта элемэнт, стыхія. А з стыхіяй і прыродай змагацца можна толькі адным спосабам, кажа п. Выш.: тэхнікай, мастацтвам, культурай. Дык трэба правесьці электрыфікацыю краю, будаваць дарогі і масты, школы і выгодныя дамы, вадаправоды і каналізацыю, праводзіць чыгункі і сплаў рэк — вось адзінае і магчымае поле да змаганьня, кажа аўтар. Бо калі падаецца беларушчыне асаднік з Пазнаншчыны, дык толькі дзеля таго, што ў гэтым краю ён варочаецца да прыроды. Гэтакім парадкам пачне гінуць панурыя, зводніцкі ўплыў Пагубы...

Гэтак прадстаўляецца аўтару Пагуба і змаганьне з ёю. Паміма сваіх дэмакратычных паглядаў, аўтар кажа, што „змаганьне з беларушчаньнем польскага насельніцтва ёсьць канечным“. Ці праекты змаганьня, падаваныя аўтарам, ёсьць разумныя, няхай судзяць самі чытачы. Мы адзначылі тут гэтыя пляны і намеры, як довад бязраднасьці некаторых польскіх дзеячоў, якія пры помачы каналізацыі думаюць змагацца з беларушчынай! Гэтыя дзеячы сапраўды бязрадныя: яны ня ведаюць, што рабіць з гэтымі ройстамі, як да іх ўзяцца—словам, пасьля 20-цігадовай працы ройсты асталіся такімі, якімі былі даўней: грозным тапелішчам для чужых адзінак... Розныя вятры адрываюць ад іх мох або лісточкі, якія апынуліся вышэй над ройстамі, але ўсё іншае ўрасло ў зямлю, загладзілася, схавалася ад ветру, каб з ім не ваяваць, як гэта робяць некаторыя суседзі, але каб прыхінуўшыся, перачакаць буру... Хто ведае, можа гэтая тактыка ляжыць у беларускай псыхіцы? А ройсты астаюцца далей ройстамі, і та ройстамі **беларускімі!**

Р. С.

„ахвотнікаў" з Гішпаніі і гарантуе ненарушальнасьць яе граніц. Гэтак выглядае ўмова ў агульных рысах. Слабым месцам гэтай умовы ёсьць тое, што яна ўвойдзе ў сілу толькі тады калі Англія правядзе праз Лігу Народаў прызнаньне за Італіяй Абісыніі, а Італія адкліча сваіх „ахвотнікаў" з Гішпаніі... Кажуць, што прызнаньне Абісыніі за Італіяй ў Лізе Народаў будзе праведзена, (захват Абісыніі прызнала ўжо нават Чэхаславаччына і мае прызнаць Францыя), але ці Італія адкліча свае войска з Гішпаніі — гэта няведама. Быццам мае там пакінуць сваіх лятуноў. як „мэханікаў", а можа і скончыць з „чырвонымі" зусім перад прызнаньнем Абісыніі! Працэс прызнаваньня Абісыніі за Італіяй у Лізе Народаў будзе найвялікшай камэдыяй апошніх дзён! І гэту камэдыю праводзіць Англія, найбольшы вораг Італіі і ў тэй самай Лізе, якая пару гадоў таму аб'явіла эканамічную вайну (санкцыі) процію Італіі!... Каб адыграць гэту „дэмакратычную" камэдыю Ліга Народаў мае сабрацца 9 мая.

**Справа Чэхаславаччыны і акружваньне Нямеччыны.**

Справа Чэхаславаччыны стала на парадку дня Эўропы. У прошлым нумары „Б. Фр." мы пісалі, што ключ да вырашэньня гэтай справы знаходзіцца перадусім у руках Нямеччыны і яна яе вырашыць так, як будзе для яе карысьней. Калі будзе карысьней падзяліць, яна яе падзяліць, калі будзе карысьней узалежніць усю, яна яе ўзалежніць або забярэ ўсю... Мы тады дайшлі да вываду, што падзел Чэхаславаччыны для Нямеччыны некарысны і яна захоча так ці інакш заняць яе ўсю. Гэтым Гітлер узяўбы ў клешчы Польшч, аддзялібы яе ад Вугоршчыны, адабраўбы ўсякія спробы і магчымасьці акружваньня Нямеччыны і дайшоўбы да Румыніі, а праз яе і да Украіны... Ня трэба забываць яшчэ і аб тым, што цяпер Гітлер зьяўляецца спадкаемцам ня толькі дынастыі Гогэнцолернаў, але і Габсбургаў, а Чэхаславаччына, Вугрыя, часьць Румыніі і Югаславіі належаць якраз да спадчыны па Габсбургах! Мусіць дзеля гэтага і паўстаў у Румыніі моцны антынямецкі курс, які давёў да ліквідацыі г. зв. Жалезнай Гвардыі, якая была на ўслугах нямецкай палітыкі. Трэба прызнаць, што Румынія ёсьць цяпер найбольшай саюзьніцай Польшчы ў спыненьні нямецкага разгону на ўсход і паўднёвы ўсход. Калі-б Нямеччына захацела заняць Чэхаславаччыну, хто ведае, ці Польшч, Румынія і Вугрыя ня выступілі-б і не забясьпечылі-б сваіх інтарэсаў на тэрыторыі цяперашняй Чэхаславаччыны? І хто ведае, ці Саветы не пасьпяшылі-б на помач сваей саюзьніцы? Польшч праз сваю тэрыторыю савецкай арміі не пусьціла-б напэўна, але Румынія? Яна пару гадоў таму выражала сваю згоду на праход сав. арміі ў Чэхаславаччыну і цяпер, здаецца, гатова была-б гэтае зрабіць. Кажуць, што пры апошніх пагрозах па адрасу Чэхаславаччыны з боку Нямеччыны, над Румыніяй пралятела ў Чэхасл. 300 савецкіх бамбавікоў! Чым апроч аэрапланаў Саветы маглі-б даць помач сваей саюзьніцы — згадаць трудна; нам здаецца, што афіцыяльна Саветы на Захадзе ня выступілі, бо вялікую маюць небясьпеку на Усходзе. Затым іхная помач агранічылася-б толькі да аэрапланаў, амуніцыі, аружжа і ахвотнікаў, так як у Гішпаніі. Цікава, што пасьля нарады францускіх міністраў (Даладзье і Боннэ) з англійскім урадам у Лёндыне, Англія і Францыя маюць выступіць у Празе і Бэрліне з дыпляматычнымі дэмаршамі ў справе Чэхаславаччыны, радзячы Празе— уступчывасьць, а Бэрліну—умеранасьць! Дэмаршы маюць быць зроблены каля 10 мая.

А тымчасам унутры Чэхаслав. кіпіць. Найбольшую актыўнасьць праяўляюць славакі, якія жадаюць абяцанай чэхамі аўтаноміі і немцы, якія праз вусны свайго павадыра Гэнляйна зажадалі быць роўнапраўнымі грамадзянамі і сугаспадарамі Чэхаславаччыны! Гэнляйн заявіў, што немцы ніколі ня згодзяцца быць на правох меншасьці ў дзяржаве і ня згодзяцца на ўпрывілеёванае становішча чэхаў. „Ня хочам панаваць над чэскім народам, але і ня хочам, каб ён панаваў над намі" — казаў Гэнляйн. Кажуць, што Гэнляйн робіць усё ў паразуменьні з Бэрлінам, а Бэрлін праз Гэнляйна праводзіць у Чэх. свае пляны, каб узалежніць Чэхасл. ад нямецкай палітыкі і дамагаецца, каб Чэхасл. парвала саюз з Саветамі. Быццам „рашучыя" падзеі наступяць пасьля павароту Гітлера з Рыму. А тымчасам Англія заявіла, што памагаць Чэхаславаччыне ня будзе, Францыя адна ня выступіць, Саветы таксама, дык Чэхасл. шукае пасярэдніка, які-б яе пагадзіў з Ням. Вочы яе зьвярнуліся на Англію... Дык выглядае, што вайна, пакульшто, можа разыйсьціся як гэта кажуць, па касьцях...

**Гішпанія і Кітай.**

Аб Гішпаніі скажам коратка: там паўстанцы пры помачы італьянцаў у красавіку моцна пабілі „чырвоных", дзелячы іх на дзьве часьці. Тая часьць, што апынулася каля Мадрыту, ёсьць адрэзанай ад Каталёніі і Францыі і ёй асталося або біцца да сьмерці, або паддацца, бо ўцякаць цэлай масай няма куды. Здаецца, што „чырвоныя" будуць біцца да канца, дзеля гэтага вайна яшчэ працягнецца нейкі час.

У Кітаі палажэньне завастрылася і вайна зацягваецца. Кітайцы, атрымаўшы помач з заграніцы і змабілізаваўшы свае сілы, пачалі змагацца ня толькі пры помачы партызанкі, але і фронтавых бітваў. У кітайскай моладзі прабудзіўся дух патрыятызму і яна ідзе ў бой з вялікай адвагай. Ахвяры ў кітайцаў вялікія, бо не стае ім тэхнікі, але і Японія мае шмат стратаў. Японія, відаць, не спадзявалася такой рашучасьці ў кітайцаў і такой доўгай вайны і цяпер стала перад дылемай: або пачаць перагаворы і выйсьці з вайны „з чэсьцю", або вясьці вайну да канца. Здаецца, што Японія выбрала гэты другі выхад і будзе старацца ў дэцыдуючай бітве вырашыць лёс вайны. Адступіць з Кітаю і гэтым прызнаць сябе пераможанай не дазволіць Японіі яе нацыянальная чэсьць, як вялікай дзяржавы. Дык гэтым летам трэба спадзявацца крывавых і дэцыдуючых баёў у Кітаі. Як Кітай так і Японія аб'явілі ў сябе нацыянальную мабілізацыю.

Тактыка Японіі, здаецца, такая: не ганяцца за кітайскімі аддзеламі па ўсім Кітаі, не рабіць памылак Напалеона, але заняць выгодныя стратэгічныя пазыцыі і ў дагодны час даць генэральны бой кітайскай арміі. Магчыма яшчэ і тое, што Японія захоча ўцягнуць кітайцаў у нейкую пастку. Разьбіўшы кітайскую армію, Японія запануе мір... Калі гэта пішам, разыйшліся весткі аб спробах замірэньня.

А тымчасам разгараецца штораз вастрэйшая дыпламатычная вайна паміж Саветамі і Японіяй. Гэтая апошняя закідае Саветам у цэлым радзе дыплямат. нотаў, што яны памагаюць Кітаю. Саветы, чуючы грозьбу з боку Японіі, спынілі да мінімум пасажырскі рух на сібірскай чыгунцы, правозячы тудою на Далёкі Усход войска, амуніцыю і ўсялякія ваенныя прылады.

**Розныя весткі.**

Новы францускі ўрад на чале з прэм'ерам Даладзье выяўляе шмат энэргіі ў справе ўзбраеньня і ўпарадкаваньня фінансаў, якія ў Францыі прадстаўляюцца катастрафальна (36 мільярдаў буджэтнага дэфіцыту!) Уведзены новыя падаткі і асыгнавана дадаткова 4 мільярды 700 мільёнаў франкаў на ўзбраеньне. Зроблены заказы і заграніцай, асабліва ў Амэрыцы, дзе ваенныя фабрыкі ідуць поўным ходам і работнікі зарабляюць па 70 цэнтаў за гадзіну. Прэм'ер Даладзье і мін. загр. спраў Боннэ падчас сваей візыты ў Лёндыне зрабілі ўмову аб **вайсковым супрацоўніцтве паміж Англіяй і Францыяй**, прыгэтым каманда над сухапутнымі сіламі на выпадак вайны пераймае Францыя, а над марскімі і лятунскімі—Англія. Пры ўсім гэтым Даладзье не адкідае магчымасьці саюзу з Італіяй.

Канцлер Гітлер 3. V. прыехаў у Рым, дзе яго спатыкалі з вялікай пышнасьцяй. Ходзяць чуткі, што мае быць заключаны на выпадак вайны **вайсковы саюз паміж і Італіяй і Нямеччынай** і абгавораны ўсе справы, якія датычаць абедзьвух дзяржаў. З усяго відаць, што Мусоліні бліжэй стаіць да Бэрліну, чым да Лёндыну. Мусоліні сваею ігрою на два фронты ўзяў сапраўды ў свае рукі ключ вайны і міру. Ад яго цяпер залежыць ня толькі доля Чэхаславаччыны (катоая так пасьпешна прызнала захват Абісыніі!) але і далейшыя падзеі на Усходзе. Мусіць дзеля гэтага і польская дыпламацыя так стараецца навязаць добрыя зносіны з Італіяй! Будучы пакт 4-х ці 5-х (з удзелам Польшчы) многа залежыць ад Італіі.

Паміж **Польшчай** і **Літвою** наладжваюцца паштовыя і іншыя зносіны. Ходзяць чуткі аб нездавальненьні літ. апазыцыі такой палітыкай ураду і аб магчымых выступленьнях процію яго за тое, што навязвае зносіны з Польшчай.

Дня 2. V. адбыўся ў Бэрліне шлюб князя Людвіка Пруская, унука б. кайзэра Вільгельма II з рас. князёўнай Кірай, дачкою В. Князя Кірылы, прэтэндэнта да рас. трону. Будучыня пакажа, ці гэты шлюб не зьвязаны з **нямецкімі плянамі** адносна Расеі... А гэтыя пляны ідуць глыбока і далёка!

**У Палестыне** зрабілася натолькі горача, што Англія пастанавіла аддзяліць калючым дротам арабскую часьць Палестыны ад жыдоўскай! З гэтага відаць, што вайна там праводзіцца паводле ўсей вайсковай тэхнікі.

Апошнім часам пачала дзеяць нейкая тайная радыястанцыя, якая дзеіць на хвалі 29 м, і якую чуваць найболей на Палесьсі. Радыястанцыя вядзе ў вострым тоне (у рас. мове) кампанію процію Сталіна і выступае ад імя „Саюзу Асвабаджэньня Расеі".

# З Польшчы.

Польскае грамадзянства знаходзіцца ўсьцяж пад знакам вялікага палітычнага падзелу. У красавіку распаўся ОЗН на правіцу і лявіцу, прыгэтым з ОЗН-у выступіў фашызуючы „Obóz Młodej Polski" і да 20 паслоў і сэнатараў, а такжа цэлы рад грамадзкіх дзеячоў. Закідаецца ОЗН-у, што ён моцна палявеў і паддаўся пад кіраўніцтва „Направы", якую „Słowo" заве масонскай мафіяй, а сам ОЗН празвала „Напрозонам". З гэтага „палявеньня" ОЗН-ну для беларусаў карысьці ніякай ня будзе. (Направа гуртуе левых, лібэральных пілсудчыкаў, якія не маглі зьнесьці даўнейшага фашызуючага ОЗН-у на чале з палк. Коцам і прымусілі яго да ўступленьня).

У часе першамаёвых маніфэстацыяў у Варшаве і іншых гарадох былі забітыя і раненыя, як ахвяры змаганьня польскай правіцы з лявіцай. Гэта сьведчыць аб сапраўды вялікім падзеле ў польскім грамадзянстве!

Ходзяць чуткі аб зьмене ўраду ў Польшчы. На чале новага ўраду мае стаць цяперашні віцэ-прэм'ер Квяткоўскі, міністрам вайск. спраў ген. Соснкоўскі, а міністрам унутраных спраў ваявода Гражынскі, як кажуць, павадыр „Направы".

## НАША ПОШТА.

**С. К. у Б.** Грошы (3 зл.) атрымалі, газэту выслалі на пададзеныя адрасы. Дзякуем за помач і спагаднасьць. Добра было-б, каб Вы прысылалі нам факты або агляды бел. жыцьця з Вашага цэнтру. Ваш артыкул аб ідэолёгічных кірунках моладзі мы захавалі ў рэдакцыйнай тэце, некалі выкарыстаем.

**Ад П. у П.** Грошы атрымалі, дзякуем. Вы пішаце, каб друкаваць газэту лацінікай, бо ў Вашай старане кірыліцу разумеюць толькі старэйшыя і то лічаныя асобы, а лацінку чытаюць добра. Вось-жа гэтага зрабіць ня можам, бо нашу газэту мы празначаем для тых, хто ўмее і лацінку і гражданку. Апроч гэтага гражданку мы ўважаем за наш **гістарычны** альфабэт, даўнейшы, чым лацініца. Прысылайце адрасы тых, якія ў Вашай старане могуць заінтарасавацца нашай газэтай.

**Р. С. у Г.** Рэдка выдаём газэту ня з нашай віны. Мы хацелі-б як найчасьцей, але не пазваляюць на гэта нашы матар'яльныя варункі. Помніце аб тым, што „Б. Фр." выдаецца ў складчыну. Калі будзе балей складчыкаў і складак, будзе выходзіць два разы ў месяц. Дзякуем за добрыя словы.

**К. М. у Р.** Вы мыляецеся. Прыглядайцеся лепш да белар. жыцьця. Чытайце бел. прэсу ўсіх палітычных кірункаў.

**А. Р. у К.** Грошы атрымалі. Не маглі вычытаць аднаго прозьвішча: Курыловіч ці Купыловіч? Другі раз пішэце выразьней, асабліва прозьвішчы і вёску.

**Л. К. у М.** Газэту ня спынім. Дзякуем за прывет і добрыя пажаданьні.

**Р. В. у Д.** Паквітаваньні на грошы мы падаём толькі тады, калі нас нехта просіць. Калі-ж газэта даходзіць, дык гэта значыць, што грошы атрыманы і ўсё ў парадку. Два зл. ад Вас атрымалі.

**Б. М. у С.** Вашым знаёмым газэты ня спынілі.

**Д. С. у П.** Аб каапэратывізьме будзем яшчэ пісаць. Цяпер мы заняліся, як бачыце, чым іншым: трэба тварыць бел. паліт. ідэолёгію. За словы спагаднасьці дзякуем.

**Гэтага нумару „Бел. Фронту" некаторыя нашы чытачы, якія дагэтуль не адгукнуліся ані складкай ані пісьмом, не атрымаюць. Некаторым пасылаем газэту, спадзяючыся, што ў будучыне яны пачуюцца да абавязку прысылаць нам падмогу і ўрэгулююць доўг.**

**Адм. „Бел. Фронту".**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкелёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.

ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ ПАСЬЛЯ КАНФІСКАТЫ

Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

...КЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабра... ...уліц. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 5 (27) Вільня, 5 мая 1938 г. Год III

## УСХОДНЯЯ ЭЎРОПА і БЕЛАРУСЬ.

**(Да беларускай палітычнай сынтэзы).**

Вялікую раўніну, якая ляжыць паміж Уралам, Чорным морам, Карпатамі, Нямеччынай, Балтыцкім і Белым морам ў геаграфіі звычайна завуць Усходняй Эўропай. Не бяромся тут вырашаць, наколькі гэтае азначэньне Усх. Эўропы правільнае; магчыма што дакладнай граніцы, аддзяляючай Заходнюю Эўропу ад Усходняй, правесьці трудна было-б. Але мы будзем разглядаць Усходнюю Эўропу ня так з геаграфічнага або культуральнага пункту гледжаньня, як з пункту палітычнага і дэмаграфічнага. Разглядаючы гэтую раўніну з пункту дэмаграфічнага, трэба сьцьвердзіць, што яе засяляюць бадай выключна славянскія плямёны, з некаторай прымешкай на ўсходзе і поўначы фінска-тюрскіх плямёнаў, а на заходзе — літоўскіх.

На гэтай вялікай раўніне тварыліся на працягу гісторыі розныя *цэнтры* палітычна-грамадзкага жыцьця, якія імкнуліся да апанаваньня ўсяе гэтае ўсходня-эўрапэйскае раўніны, або прынамся яе частак.

Першым цэнтрам, які зьяўляецца нараніцы гісторыі, быў *Кіеў*. Заложаны няведама кім, быў заняты ў 9-тым стагодзьдзі варага-русамі, якія арганізуюць там нарманска-ўкраінскую дзяржаву. Гэтая дзяржава ад фінскага слова „Руотсі“ — (гэтак фіны называлі варагаў), завецца Русь і пачынае злучаць іншыя цэнтры, якія паўсталі адначасна або і раней за Кіеў. Да гэтых цэнтраў належаў і наш *Полацк*, арганізаваны, як падаюць хронікі, таксама нарманамі-варагамі. Паміж двама цэнтрамі пачынаецца заўзятае змаганьне, якое трывае болей як праз два стагодзьдзі з зьменным шчасьцем. Чым гэтае змаганьне скончылася-б — згадаць трудна, магчыма, што Кіеў, маючы большыя матар'яльныя магчымасьці, узалежніўбы ад сябе полацкі цэнтр і здабыўбы гэгэмонію на ўсходня-эўрапэйскай раўніне. Але да гэтага не дайшло: наезд татараў у 13-тым стагодзьдзі бурыць кіеўскі цэнтр і адбірае ад яго цэнтралістычныя магчымасьці. Аслаблены (хоць цалком не пераможаны) у змаганьні з Кіевам полацкі цэнтр таксама ўжо ня змог стацца цэнтралізуючым асяродкам.

Тады вырастае новы цэнтр — *Вільня*. Гэты цэнтр быў створаны супольнымі сіламі літоўцаў і беларусаў (прыгэтым трэба адзначыць, што пачаткавы „літоўскі“ цэнтр быў утвораны за Міндоўга ў *беларускім* Навагрудку) і ідзе да апанаваньня Усх. Эўропы. Вільня злучае пад сваею ўладаю распыленыя беларускія, украінскія і расейскія княствы і творыць Вялікае Княства Літоўскае, якое за Гедыміна, Альгерда і Вітаўта пашырае свае ўплывы аж па Чорнае мора, бярэ Кіеў і акружвае Маскву, даходзячы аж да Разані. Аднак палітыка Ягайлы і Ягайлавічаў спыняе гэты гон віленскага, літоўска-беларускага цэнтру і пераносіць цэнтр з Вільні спачатку ў Кракаў, а потым Варшаву. Такім парадкам беларусы страцілі той цэнтр, які самі збудавалі (Полацк), і той цэнтр, які збудавалі разам з літоўцамі (Вільню).

З часам у *Варшаве* творыцца цэнтр, які імкнецца да гэгэмоніі над Усх. Эўропай. Гэты цэнтр, апіраючыся на *палітычнай уніі* з В. Кн. Літоўскім, пераймае ад яго і праводзіць далей цэнтралістычныя тэндэнцыі. *Рэлігійная унія* мае прычыніцца да пашырэньня заходніх уплываў на душу Усходу...

Але на Усходзе ўбіраецца ў сілу яшчэ адзін цэнтр — *Масква*, якая ўсей сілаю рывалізуе з Варшаваю, спачатку з зьменным шчасьцем. Быў час, калі Варшава амаль не заўладала Масквою (у часе г. зв. „Смутнае пары“ на пачатку 17-га стагодзьдзя) і не пасадзіла ў Маскве каралевіча Уладыслава, якога маскоўскія баяры былі ўжо нават выбраўшы на свайго цара. Але амбіцыя бацькі Уладыслава, Жыгімонта III, які хацеў сам быць маскоўскім царом, перашкодзіла гэтаму. Далейшая рывалізацыя Масквы і Варшавы кончылася паражэньнем гэтай апошняй і падзелам Польшчы. На палітычнай арэне ўсходня-эўрапэйскай раўніны асталася адна Масква, каторая зьяўляецца валадарыняй ня толькі Усх. Эўропы, але і тварцом вялікай Расейскай імпэрыі, абыймаючай прастор ад Вялікага акіяну ў Азіі да Балтыцкага мора ў Эўропе.

Гэтак было да Вялікай вайны. Пасьля Вялікай вайны аджывае і выходзіць на палітычную арэну даўнейшая спаборніца Масквы — Варшава і зараз паміж імі прыходзіць да сьмяротнай схваткі. Пры помачы Францыі і пры вялікіх натугах польскага народу Варшава асталася на арэне і паміж гэтымі двама цэнтрамі ў сучаснасьці існуе глыбокая варожасьць, гатовая ў кожную часіну перайсьці ў аружнае змаганьне. Варшава чуецца слабейшай і дзеля гэтага некаторыя польскія палітыкі заклікаюць польскае грамадзянства да заключэньня саюзу з Бэрлінам, каб зьнэўтралізаваць Маскву, аддзяляючы ад яе ўсе нерасейскія народы.

Але пры падзеле Расеі паўстаўбы яшчэ адзін цэнтр — Кіеў, які меўбы за сабою каля 40 мільёнаў украінцаў. Ясна, што гэты цэнтр імкнуўся-б таксама да адыграньня вялікшай ролі ў Усх. Эўропе, як гэта было тысячу гадоў таму назад. Значыць, Беларусь апынулася-б паміж трыма цэнтрамі: Масквою, Варшаваю і Кіевам, з каторых кожны пашыраўбы свае ўплывы як найдалей на беларускія землі. Праўда, трэці цэнтр — гэта яшчэ песьня будучыні, але і яго нам трэба браць пад увагу, бо ён мае прэтэнсіі да беларускага Палесься, Бельшчыны, а нават Беласточчыны, што пры ведамай нацыянальнай дынаміцы ўкраінскага народу грозіць клопатамі для беларускага народу. Значыць, патрэбен яшчэ адзін цэнтр — беларускі, якіб узяў спадчыну па Полацку. Але гэта залежыць ня толькі ад беларусаў, але і ад іншых цяпер рывалізуючых цэнтраў: наўперад Масквы і Варшавы. Дык нам трэба разважыць пляны, сілы і магчымасьці гэтых двух цэнтраў, на восі каторых знаходзіцца Беларусь, а таксама іх адносіны да беларускай справы.

Але аб гэтым у наступным нумары.

## НАПАСЬЦЬ НА Я. КУПАЛУ.

У красавіковай кніжцы „Вістника“, выдаванага ўкраінскім нацыяналістым Д. Данцовым, зьявіўся артыкул нейкага В. Піліпчука пад назовам „Ідеольог нової Білорусі? (Янка Купала)“. Артыкул гэты можна падзяліць на тры часткі: уступ, „разгляд“ творства Купалавага і канчатак.

У кароткім уступе аўтар кідае фразу, узятую з украінскай палітычнай брашуры, аб тым, якім гэта мае быць народ, што хоча жыць, і a priori заяўляе, што „гаварыць цяпер пра беларускую нацыю вельмі („щонайменше“) рана“. Дадае ён тут-жа, што Украінцы маюць ляпей пазнаць Беларусаў, каб „беларуская загада (праблема) ня сталася з часам яшчэ аднэй абмылаю, грозным memento ў нашым (украінскім) выняткава далікатным геопалітычным палажэньні“.

Перайшоўшы да самога Купалы, аўтар тэндэнцыйна выбірае некаторыя вершы Купалавы, ў бальшыні з першае пары творства поэты і дзікімі выкрыкамі, бы „вожд“ сапраўдны робіць аб іх свае „аўторытэтныя“ заявы. Тут маем, што быццам у Купалы „зьяўляецца здаваленьне, калі ён бачыць свой народ пераможаным і ўбогім“ (бач. 256) і што Купала быццам творыць штучныя абразы, апяваючы гаротнае жыцьцё беларускай масы (253) і што Купала ў беларускай мінуўшчыні нічога не знайшоў (257) і г. д. Кожны, хто хоць крыху знаёмы з творамі Купалавымі, прызнае, што ў гэтых заявах аўтаравых анічагусенькі няма праўды. Піліпчуку чамусьці трэ' было яшчэ абвінаваціць Купалу ў палітычнай аднабокасьці і вось ён выдумляе, што быццам „Купала зварочуецца адно да Беларусаў на гэты бок Сьвіслачы, дыплёматычна прамоўчуючы, што ё яшчэ „бацькаўшчына“ і ў іншым боку. Адно дзеля прыстойнасьці ўздыхае і на „ўсход сонца“.

У вершы „Вясна за вясною“, як і ў шмат якіх іншых, Купала абураецца на сонных яшчэ нацыянальна Беларусаў, наракае на іх, крычыць, упікае, паміж іншым кажучы:

> Вам — пакорным рабом — не [вясны,
> Рукі накрыж зложыўшы чакаці,
> А пад гоман паўночнай зімы
> Яму ў полі сабе будаваці!

а аўтар усьцешыўся і борзьдзенька спяшаецца прызнаць, што „Так нядвузначна канчае Купала“ (258), што быццам ён згаджаецца з гэткаю доляю свайго народу.

Але ня думайце, што аўтар артыкулу, п. Піліпчук, нам ня прыяе; наадварот, канчаючы ён смуціцца, што Беларусы ня ўзыходзяць на гістарычную дарогу сьветлай традыцыі сужыцьця з Украінцамі — ад палавіны XIV стаг. да 1569 г., пары, што пакінула па сабе архітвор — Літоўскі статут“ (259). Што праўда, з Літоўскім статутам было „крышку“ накш, не пара сужыцьця

яго стварыла, але Беларусы. Але няхай сабе, паслухайма, што далей пяе (бо тут ужо — ён пяе...) спадар Піліпчук: „гэтыя сьветлыя даты маглі-б і павінны натхнуць... народ, **пакінуты сваім кіраўніцтвам**“ (падчыркненьне маё — **Я. Ст.**). Ага!... І зараз-жа даведаваемся, што рэзультаты прыйдуць надта борзда, бо „па кароткай супрацы самі Беларусы гэты чад сацыялізуючае ідэолёгіі заменяць на здаровыя прынцыпы барацьбы за існаваньне свайго гатунку так, як ён пойдзе дарогаю гістарычнага развою“ (259). Аказуецца, ўсё надта проста: беларускі народ ня мае — паводле Піліпчука — свайго кіраўніцтва, дык мае пайсьці на сужыцьцё ці пакульшто супрацу з Украінцамі, дастане кіраўніцтва ўкраінскае і адразу стане добра!... Так-бы й сказаць, а ня мучыць ні ў чым нявіннага Купалу, прыкідаваючыся хітрым палітыкам. У гэтую хітрасьць ніхто не паверыць, бо калі-б і запраўды Купала быў такім, якім яго Піліпчук стараўся прадставіць, дык жа-ж Купала — гэта яшчэ ня ўся беларуская інтэлігенцыя, на’т ня ўсе пісьменьнікі, каб рабіць ажно такія вывады.

„Вістник“ надта пасьпяшыўся з плянам, „каб беларуская загада ня стала з часам яшчэ аднэй абмылаю“, а пасьпех, як кажуць, людзём на сьмех.

Але сьмех на бок! Піліпчук тэндэнцыйна й груба прадстаўляе Купалу й беларускі рух, падаючы іх у аднабокім і хвальшывым сьвятле дый імкнучыся выцяць у Беларусаў з-за вугла. „Крытыка“ яго такога роду, што немагчыма на яе адказаваць разглядам твораў Купалавых і дзеля гэтага агранічуюся да кароткага адказу. Артыкул Піліпчука шкодны наўперад Украінцам, бо Беларусам у даны прынамся мамэнт ён можа быць карысны. Пры агульным філёўкраінскім настрою нашай інтэлігенцыі ён адчыніць не аднаму вочы, што не адно ё Украінцы нашыя прыяцелі, але ёсьць Украінцы такія, як Піліпчук, што пры зачацьці ўкраінскага імпэрыялізму кіруюць вочы наўперад у бок беларускі. Хто ведае, з кім нам прыйдзецца мець дзела, з гэнымі ці з гэтымі апошнімі, што ў 1918 г. захапіўшы былі паўдзённую Беларусь і ймкнуліся яе ўкраінізаваць, закладаючы ўкраінскія школы ў Мозырскім, Рэчыцкім і іншых паветах.

**Др. Я. Станкевіч.**

# На беларускім грунце

### З жыцьця вёскі.

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Страйк у Слоніме.** Ад 22. IV. трывае ў Слоніме вялікі страйк, у якім бярэ ўдзел каля 1000 работнікаў. Грунт страйку эканамічны і антысэміцкі, а гэта дзеля таго што ў Слоніме ўсе прадпрыемствы належаць да жыдоў, пасярод каторых ёсьць сапраўдныя мільянэры. Разьвіваюцца антысэміцкія настроі, падтрымліваныя эндэцкімі і каталіцкімі дзеячамі. Работнікі, якія зарабляюць толькі па 3 зал. 20 гр. у дзень, паддаюцца гэтым уплывам. У Слоніме з прычыны страйку пануе вялікае ўзгарачэньне, якое можа выліцца ў непрадбачаныя формы.

**Эндэцкія манэўры.** Эндэцыя ўва ўсей Польшчы праяўляе штораз болей энэргіі. Пасьля „маршу на Мысьленіцэ“ інж. Добошынскага эндэцкія павадыры праектавалі „марш на Варшаву“, спынены ўладамі. У апошнім часе эндэкі разьвілі дзейнасьць навакол Вільні, падбухторваючы наша сялянства да выступленьняў проціў жыдоў і „жыдо-комуны“. Для кожнага ясна, што пры помачы антысэміцкай дзейнасьці эндэцыя імкнецца да захвату ўлады ў Польшчы. Гэтаму самаму служаць і іхныя вечы дзеля змаганьня з „жыда-камунай“, (быццам урад з ёю не змагаецца!). Такія вечы адбываліся ў Шумску, Астраўцы, Варнянах, Міхалішках і іншых мястэчках. Трэба ведаць, што ўсе гэтыя вечы—гэта эндэцкія памыканьні да ўлады. А тады прышлаб чарга і на беларусаў. І цяпер пад „жыда-камунай“ эндэкі часта разумеюць і беларусаў.

**Цывінскі пакараны.** Доцэнт Віл. унівэрсытэту др. Цывінскі зьмясьціў у „Dzien. Wil.“ (30. I.) артыкул аб Цэнтральнай Прамысловай Акрузе, якая творыцца ў трыкутніку паміж Санам і Віслай. У артыкуле Цывінскі зацытаваў словы марш. Пілсудскага, што Польшч ёсьць падобная да абаранка: толькі тое нечага варта, што па берагох, а ў сярэдзіне пуста... прыгэтым дадаў, што гэта словы аднаго каботына. Хоць Цывінскі не падаў прозьвішча Маршалка, то выкрылася, што гэтыя словы сказаў Маршалак і Цывінскі, ужываючы абразьлівага слова, зьняважыў памяць Маршалка („каботын“, як выясьняў прак. Жэленскі на судзе, азначае камэдыянта, дрэннага актара). За гэту зьнявагу Акружны Суд у Варшаве засудзіў Цывінскага на 3 гады турмы. Апэляцыйны Суд мае адбыцца ў чэрвені, Цывінскага будзе бараніць 15 найлепшых адвакатаў.

Сойм ухваліў закон, паводле якога абраза памяці Марш. Пілсудскага караецца да 5 гадоў турмы.

**Масавыя арышты.** Віл. прэса прынясла вестку, што на абшары паўночна-ўсходніх ваяводзтваў, асабліва Наваградзкага, ўлады правялі многа арыштаў камуністаў і камсамольскай моладзі, у тым ліку сябраў акружнога раёну КПЗБ. Апроч гэтага ў Вільні былі арыштаваны некаторыя камуністы і павадыры „Бунду“ („жыдоўскага сацыялістычнага Зьвязу“). Арышты ў Вільні адбыліся ў сувязі з 1-ым мая.

—о—

# ЯК ВЫГЛЯДАЮЦЬ „РОЙСТЫ“.

**(З цыклю „Чаму бунтуюцца „Ройсты“?).**

Даючы ў „Бел. Фронце“ (№ 3 сёлета) агульную характэрыстыку кніжкі Я. Мацкевіча „Бунт Ройстаў“, мы адзначылі, што яна напісана лішне лёгка і павярхоўна, бо не падае **глыбейшых** прычын „бунту ройстаў“. Праўда, п. Я. Мацкевіч абяцаўся выступіць з рэвэляцыйнымі артыкуламі (з якімі цяпер дзеля ведамых прычын выступіць ня можна), у каторых мае закрануць усе балячкі нашага „тутэйшага“ жыцьця, толькі няведама, калі ён гэта зробіць,а тымчасам кожны прызнае, што справа стаяньня нашага селяніна перад урадаўцам у шапцы ці бяз шапкі яшчэ не вычэрпывае прычын гэтага „бунту“.**Прычыны ляжаць глыбей, іменна,** у агранічэньні нацыянальнага жыцьця, ў **матар’яльнай** і **маральнай галіцэ нашага сялянства**. Дык прычыны гэтыя мы хацелі-б прадставіць у цэлым радзе артыкулаў, у цыклю, якому далі загаловак „Чаму бунтуюцца ройсты?

Але перад тым мы хацелі-б даць малюнак гэтых ройстаў і прадставіць, **як выглядаюць** гэтыя **ройсты** з пункту гледжаньня **нацыянальнага.** Каб нас не западозрылі ў нейкім тэндэнцыйным асьвятленьні, мы будзем апірацца на спасьцярогі польскіх публіцыстаў, якія, як пабачым далей, даволі ўважна сочаць за жыцьцём нашых „ройстаў“ і, хоць адкідаюць існаваньне беларускай справы, то не адкідаюць існаваньня беларускіх „ройстаў“, гэта значыць, беларускай народнай масы.

* * *

Наўперад даём голас гэтаму самаму п. Я. Мацкевічу, які ў „Słowie“ (20. II. 38) разважае справу літоўскую і мімаходам закранае і справу беларускую. Думкі ягоны варты ўвагі яшчэ і дзеля тэй прычыны, што яны былі сканфіскаваны адм. уладамі, але суд канфіскаты не пацьвярдзіў і гэтым даў магчымасьць зацытаваць іх.

Пан Мацкевіч крытыкуе там палітыку рэпрэсіяў, тасаваную адм. уладамі адносна літоўцаў і кажа, што гэтая палітыка памылковая, бо апіраецца на фальшывых асновах і не вядзе да пажаданых рэзультатаў. Далей п. М. кажа даслоўна так: „Адміністрацыйныя ўлады выбралі мамэнт дзеля ліквідацыі г. зв. „антыдзяржаўнай літоўскай дзейнасьці“ зусім няўдала, бо ліквідацыя літоўшчыны на прасторы Віленшчыны ідзе сама сабою (samorzutnie“ і то ідзе ў вельмі шыбкім тэмпе на карысьць—беларушчыны. Гэтая праблема ёсьць вельмі цікавая і вымагае проста навуковых досьледаў! Бо зважма, кажа п. Мацкевіч, Беларусы ня маюць у нас школаў, ня маюць арганізацыяў, ня чытаюць уласных газэт, ня маюць зьнікуль грашэй, ня ёсьць сьведамыя нацыянальна. А літоўцы да нядаўняга часу мелі сільную арганізацыйную сетку, адукаваных кіраўнікоў, шматлікія арганізацыі, гімназіі і школы, бяссумніўна атрымлівалі матар’яльную помач з Коўні. Тымчасам цэлыя вёскі, цэлыя воласьці, дзе нядаўна яшчэ гаварылі палітоўску, сяньня гавораць пабеларуску („патутэйшаму“, „папросту“). Закранаю гэтае зьявішча, кажа п. М., годнае спэцыяльнага вывучэньня, толькі мімаходам. Бо калі маю намер зрабіць з яго нейкі выснаў, то тымчасам толькі гэты, што тыя, якія адмініструюць нашым краем, проста яго ня знаюць у дастатачнай меры“.

Гэтак піша п. Я. Мацкевіч. Адкінуўшы ягоныя цьверджаньні аб нячытаньні беларусамі сваіх газэт, аб поўнай нястачы ў беларусаў нацыянальнага ўсьведамленьня а такжа аб масавым беларушчаньні літоўцаў — усе іншыя разважаньні п. Мацкевіча годны вялікай увагі. Яны пацьвярджаюць нашы тэзы аб двух вялікіх сілах беларускага народу: **масавасьці і кансэрватызьме,** які выяўляецца ў стыхійнай прывязаннасьці да свайго.

* * *

Цяпер пярэйдзем да гутаркі, якую меў супрацоўнік варшаўскай „Polityki“ з гэтым-жа самым п. Я. Мацкевічам і якая была друкавана ў гэтым часапісе (з дня 25. II. 38). Гутарка гэта мае арыгінальны загаловак: „Хаты на-бела—душы начырвона“. На пытаньне, ці сувязь шырокіх народных масаў на „крэсах“ з Польскай Дзяржаваю ўзрастае ці не — п. М. пасьля нейкай раздумы адказаў, што не... Чаму? Тут п. Мацкевіч заявіў, што ён мае выступіць некалі з рэвэляцыйнымі артыкуламі, але адкладае гэта з цэнзурных прычын, толькі, кажа, каб ня было запозна... Далей п. М. яшчэ раз сьцьвярджае факт беларушчаньня літоўцаў і кажа, што хоць гэтая беларуская паводка ня мае, напрыклад, украінскага ўсьведамленьня, то мае за сабою нейкую масавую сілу. „Фактам ёсьць, кажа п. М., што ўвесь край, з выняткам двароў, асаднікаў, шляхоцкіх засьценкаў, польскага абшару навакол Вільні (?) і штораз болей корчачыхся літоўскіх воласьцяў — гаворыць пабеларуску. Сяньня ахватней і болей, чым за расейскіх часаў! Параўняем цяпер гэты факт, кажа далей п. М., з урадавай статыстыкай, якая паказвае нават у такіх паветах, як Вялейскі або Маладэчанскі 60 прац. (здаецца) „польскага вясковага жыхарства“. У гэтым параўнаньні ляжыць, на маю думку, ужо асноведзь будаваньня на фікцыі. Бо як можна добра адміністраваць краем, ня ведаючы, хто яго засяляе? Як можна вучыць, ня ведаючы, каго вучыць? Вось-жа з падобным падыходам спатыкаемся на ўсіх адцінках (урадавае слова) нашага „крэсовага“ жыцьця“.

„Аб гэтым падыходзе я могбы сказаць толькі тое, кажа далей п. Мацкевіч: ня можна прыцягваць да сябе людзей, накідаючы ім цяжкую ношу грамадзка-палітычнай

### СПЫНЕНЬНЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ „БЕЛ. ГАСПАДАРСКАГА ЗЬВЯЗУ“.

Дня 15.IV сёлета, якраз ў Вялікую Пятніцу (новага стылю) Віл. Гарадзкое Стараства спыніла („завесіла“) дзейнасьць „Беларускага Гаспадарскага Зьвязу“, на чале якога стаяў закладчык яго др. Ян Станкевіч, ведамы беларускі дзяяч і філёлёг. Спынілі „Зьвяз“ з фармальных прычын — за незахаваньне некаторых артыкулаў Статуту. Цікава будзе тут адзначыць, што на 19.IV быў назначаны сход Рады „Зьвязу“, на якім меліся адбыцца перавыбары. Як мы чулі, кіраўнікі „Зьвязу“ спыненьне ўважаюць за вялікую і незаслужаную для сябе крыўду і нават не падалі рэкурсу ў ваяводзтва, уважаючы мусіць, што ўсе стараньні ў гэтым кірунку ёсьць бязмэтныя...

Спыненьне „Зьвязу“ насоўвае нам некаторыя рэфлексы. Бязумоўна, спыненьне дзейнасьці апошняй культурна-прасьветнай беларускай арганізацыі ёсьць балючым ня толькі для закладчыкаў і сябраў „Зьвязу“, але і для ўсяго беларускага грамадзянства. Праўда, пару месяцаў таму адзін бел. часапіс вельмі востра выступіў процiў ажыўленьня дзейнасьці „Зьвязу“, але ягонага голасу ніхто паважна ня браў ды потым ён сам, відаць, прызнаўшы сваю памылку, надрукаваў у спагаднай форме вестку аб ажыўленьні дзейнасьці „Зьвязу“. Але мы хацелі-б тут разважыць справу „Зьвязу“ з іншага боку і спытацца: што рабіўбы „Зьвяз“, калі-б ягонай дзейнасьці ня спынілі? Ці ён меўбы магчымасьці працы, асабліва на вёсцы? Вось здаецца, што не. Калі-б нават улады і зарэестравалі адзін-другі гурток (хоць пры цяпёрашніх адносінах да бел. справы гэта выглядае неправўдападобна), то разьвіць шырэйшую дзейнасьць ня было-б магчымасьці.

### ЗАБАРОНА ВЫДАВАЦЬ „ЗОЛАК“.

Група бел. эсэраў (сацыялістаўрэволюцыянераў) пастанавіла ўзнавіць выдаваньне свайго органу „Золак“, які выходзіў непэрыядычна (апошні нумар выйшаў у чэрвені 1936 г., рэцэнзію аб ім мы зьмясьцілі ў 2 нумары „Б. Фр.“ з тагож году). З гэтай мэтай у Віл. Гарадз. Старасства была пададзена заява аб узнаўленьні часапісу, але Старасства выдаваць забараніла, матывуючы тым, што ўжо нехта другі падаў заяву аб выдаваньні часапісу пад гэтакім самым назовам...

### ЦЫТАТЫ Ў „КАЛОСЬСІ“.

У апошнім нумары „Калосься“, які выйшаў нядаўна, зварочвае ўвагу вялікая колькасьць цытатаў у чужых мовах. Аднак цэлую сэнсацыю выклікала на віленскім грунце цытата з кітайскай газэты „Гунбао“, паданая ў... расейскай мове. Чаму ў расейскай, а не беларускай або кітайскай? Усім-жа навукоўцам ведама, што патрэбныя мясцы цытуюцца або ў арыгінале, або ў перакладзе на тую мову, у якой друкуецца часапіс, значыць, у даным выпадку ў беларускай мове. А калі не ў беларускай, дык на добры лад трэба было-б падаць у кітайскай, што пры ўнівэрсальнасьці рэдактароў „Калосься“ не станавіла-б большай труднасьці... А так выглядае, што праўда пры Меншыкавым, які ў „Новым Времени“ пісаў, што кітайцы — гэта тыя-ж самыя „русскіе“, толькі акітайчаныя!...

# На міжнародным грунце

### Вялікая дыпляматычная ігра.

У красавіку адбывалася вялікая і глыбокая дыпляматычная ігра, якая мела на мэце перамяніць уклад палітычных сіл у Эўропе. З аднаго боку — паразумленьне паміж Англіяй і Італіяй і спробы паразумленьня паміж Італіяй і Францыяй (тут галоўным іграцом быў Муссоліні), а з другога боку — акружваньне Чэхаславаччыны і пагроза для яе незалежнага існаваньня (тут галоўным іграцом быў Гітлер). Апроч гэтых двух іграў адбывалася яшчэ трэцяя, можа найважнейшая: акружваньне Нямеччыны. Тут іграцамі былі ўсе суседзі Нямеччыны, якія спужаліся разросту яе магутнасьці, у першую чаргу Польшч, Румынія, Францыя, якія хочуць перацягнуць на свой бок Вугоршчыну, Югаславію і Італію... За дыпляматычнай ігрой трэба сьлядзіць з вялікай увагай, бо яна мае аграмаднае значэньне для будучага ўкладу паліт. сіл у Эўропе. Даволі сказаць, што пры помачы дыпляматычнай ігры Гітлер збурыў пакт, заключаны ў 1925 г. у Лёкарно, які гвараантаваў ненарушальнасьць Нямеччынай усіх заходніх граніц, пры помачы дыплям. ігры Гітлер увёў сваю армію ў здэмілітарызаваную надрэйнскую правінцыю і загразіў Францыі; праз саюз з Італіяй зламаў г. зв. фронт Штрэзы (саюз Італіі, Францыі і Англіі), які гвараантаваў незалежнасьць Аўстрыі і ўрэшце правёў аншлюс Аўстрыі, цяпер-жа ўзяўся за Чэхаславаччыну. Ігра ў гэтай справе мае вырашыцца ў Рыме, ў гутарках Гітлера з Муссолінім. А Муссоліні праводзіць цяпер пры помачы дыпляматычнай ігры прызнаньне за ім Абісыніі і праваў на Міжземным моры, прывілеяў у паўночнай Афрыцы, Чырвоным моры і Суэскім канале, кудою праходзіць важны стратэгічны і гандлёвы шлях. Праўду кажучы, найболей у гэтай ігры здабыў Гітлер: ён без праліцьця крыві здабыў цэлую Аўстрыю, тады калі Францыя для здабыцьця Эльзас-Лётарынгіі патраціла толькі крыві і капіталу! Карыстаючыся з варажнечы паміж Англіяй і Італіяй, ён увёў войска ў Надрэнію, а ўканцы заняў Аўстрыю! Але гэты апошні акт напужаў нават Муссоліняга, які пачуўся слабейшым за свайго кампаніёна і — пашукаў саюзу з Англіяй.

### Паразумленьне Англіі з Італіяй.

Аб прычынах гэтага паразумленьня мы пісалі ў прадапошнім нумары „Б. Фр.“, паказваючы на эканамічныя труднасьці Італіі і на палітычныя Англіі, цяпер адзначым толькі тое, што Муссоліні пачаў шукаць згоды з Англіяй тады, калі Гітлер заклікаў да сябе б. канцлера Аўстрыі Шушнінга. Спачатку Англія ня верыла ў шчырасьць кроку Муссоліняга, але пасьля аншлюсу, калі Італія пачулася слабейшаю за Нямеччыну, паверыла і пачала перагаворы, якія 16.IV.38 былі скончаны і ўмова падпісана.

Якія-ж варункі гэтай умовы?

Англія і Італія маюць роўныя правы на Міжземным і Чырвоным моры (дагэтуль была там перавага Англіі); абедзьве дзяржавы паведамляюць сябе аб рухах войскаў, новых лётнішчах і ўкрапленьнях пры гэтых морах; Італія прызнае пануючае палажэньне Англіі пры выхадзе з Чырвонага мора ў Індыйскі акіян (горад Адэн) і пратэктарат Англіі над Арабіяй; Англія дае Італіі поўную свабоду плаваньня праз Суэскі канал; абяцае правесьці праз Лігу Народаў прызнаньне за Італіяй захвату Абісыніі; Італія абяцае адклікаць сваіх

## З Савецкай Беларусі.

Некалькі гадоў таму кам. улады правялі рэформу беларускай граматыкі і правапісу ў тым кірунку, каб бел. мову прыбліжыць да расейскай. Цяпер маюцьісьці яшчэ далей і скасаваць у пісьме адну з найболей характэрных азнак бел. мовы: г. зв. „аканьне“, паводле якога ненаціскныя „о“ і „э“ выгаварываюцца і пішуцца як „а“. Дзеля гэтага ў Саветах трэба будзе пісаць не „вада“, а „вода“; не „галава“, але „голова“ і г. д.

фікцыі, а не даючы ім узамен хаця-б гаспадарчага дабрабыту. Камуністаў маем менш, чым гэта некаму здаецца. Але, напрыклад, абсурдальны паліцыйны прымус перамалёвываньня беларускіх хат на-бела часта перамалёвывае адначасна пракананьні іх уласьнікаў на-чырвона. А дык-жаж бяленьне хат і адходнікаў—гэта толькі адзін з найменшых і найнявіньнейшых прыкладаў“.

Гэтак апісвае нашу вёску п. Мацкевіч. Трэба сказаць, што ягоны малюнак, апрача некаторых штрыхаў, згодны з праўдай. Значыць, некаторыя польскія дзеячы дасканальна знаюць палажэньне нашай вёскі, хацелі-б нешта для яе зрабіць—і ў рэзультаце ня робіцца нічога. Чаму? Ці на перашкодзе стаіць тупая нашая бюракрацыя? Не, бо бюракрацыя на ўсім сьвеце тупая: яна ня мае ініцыятывы, дый ня можа яе мець, боючыся адказнасьці за „сваю“ палітыку! Дык дзе прычына гэтакіх адносін да нашага народу? На гэтае пытаньне мы адкажам іншым разам, а цяпер скажам толькі тое, што галоўная прычына ляжыць у **фікцыі** палітыкі польскага нацыяналізму, якая не прызнае **факту** існаваньня беларускага народу. На гэтай галоўнай фікцыі будуюцца ўсе іншыя фікцыі, аб якіх гаворыць п. Мацкевіч. Іншыя польскія дзеячы, праўда, прызнаюць існаваньне беларускага народу, але твораць іншую фікцыю: магчымасьць спалянізаваньня беларускай народнай масы! Характэрная рэч, што творачы гэтыя фікцыі, польскія палітыкі адначасна баяцца беларускай масы, пры гэтым кажуць: і хто-ж яе ведае, што яна думае, гэтая маса! У польскія арганізацыі ня ідзе, не палянізуецца, не адчувае сувязі з Польскай Дзяржавай (як кажа п. Мацкевіч), мае ўсходнія сымпатыі — і рабі што хочаш! Гэтакія разважаньні можна пачуць ад польскіх дзеячоў на бел. землях.

* * *

Цяпер пададзём яшчэ адзін голас, які паходзіць з левых польскіх кругоў, іменна, голас „Kurjera Powszechnego“, органу віл. левай санацыі (з якім у сваім часе „Шлях Моладзі“ навязваў гутаркі). Восьжа гэты орган у нумары 77 з дня 20. III. сёлета зьмясьціў вялікі артыкул пад шмат гаворачым загалоўкам „Walka z Pahubą“. Пад словам „Пагуба“ (ад беларускага „пагубіць“) аўтар артыкулу, п. Вышамірскі, разумее беларускую вёску, усе крэсы, бо Пагуба — гэта сымбаль, кажа аўтар. (Слова „Пагуба“ аўтар узяў з верша польскай пісьменьніцы Добачэўскай, у каторым яна апісвае беларускую вёску Пагубу). Восьжа паводле п. Вышамірскага Пагуба мае ў сабе дзіўную, таёмную сілу прыцягваньня і ўсосваньня чужых істотаў, якія з ёю сакнуцца, так як тое тапелішча, якое ўсосвае ў сябе людзей. Чаму гэта, пытаецца аўтар, прыезны чалавек з іншых дзялянак Польшчы так скора, бо ўжо па некулькіх гадох, асымілюецца на беларускіх „крэсах“ і гіне, тады калі ў іншых дзялянках Польшчы, хоць і болей культурных, прыезныя людзі гэтак скора не зрастаюцца з наваколнасьцю?—Робіць гэта тутэйшая прырода, адказвае аўтар, прырода яшчэ няўцывілізаваная і дзеля гэтага болей першабытная і болей беспаспрэдна дзеючая на чалавека, болей элемэнтарная ў сваіх сілах, фармуючых кожны жывы арганізм, каторы да іх прыбліжаецца... Далей аўтар стараецца разьвязаць дзьве загадкі: адну — чаму беларушчацца літоўцы, а другую — чаму беларушчацца асаднікі. На першую загадку п. Выш. адказвае так: літовец дзеля таго прыймае бел. мову, што для яго яна служыць спосабам паразумленьня ня толькі з беларусамі, але і з палякамі, якія бел. мову лягчэй зразумеюць за літоўскую—дык літовец, прысвойваючы сабе беларускую мову, выбірае найлягчэйшую дарогу, гэтым самым паступае практычна і эканамічна. Разьвязваючы другую загадку, іменна, чаму беларушчыцца польскі асаднік, п. Выш. прыходзіць да таго пракананьня, што беларушчына — гэта першабытная сіла, сіла зямлі і прыроды, гэта элемэнт, стыхія. А з стыхіяй і прыродай змагацца можна толькі адным спосабам, кажа п. Выш.: тэхнікай, мастацтвам, культурай. Дык трэба правесьці электрыфікацыю краю, будаваць дарогі і масты, школы і выгодныя дамы, вадаправоды і каналізацыю, праводзіць чыгункі і сплаў рэк — вось адзінае і магчымае поле да змаганьня, кажа аўтар. Бо калі паддаецца беларушчыне асаднік з Пазнаншчыны, дык толькі дзеля таго, што ў гэтым краю ён варочаецца да прыроды. Гэтакім парадкам пачне гінуць пануры, зводніцкі ўплыў Пагубы...

Гэтак прадстаўляецца аўтару Пагуба і змаганьне з ёю. Паміма сваіх дэмакратычных паглядаў, аўтар кажа, што „змаганьне з беларушчаньнем польскага насельніцтва ёсьць канечным“. Ці праекты змаганьня, падаваныя аўтарам, ёсьць разумныя, няхай судзяць самі чытачы. Мы адзначылі тут гэтыя пляны і намеры, як довад бязраднасьці некаторых польскіх дзеячоў, якія пры помачы каналізацыі думаюць змагацца з беларушчынай! Гэтыя дзеячы сапраўды бязрадныя: яны ня ведаюць, што рабіць з гэтымі ройстамі, як да іх ўзяцца—словам, пасьля 20-цігадовай працы ройсты асталіся такімі, якімі былі даўней: грозным тапелішчам для чужых адзінак... Розныя вятры адрываюць ад іх мох або лісточкі, якія апынуліся вышэй над ройстамі, але ўсё іншае ўрасло ў зямлю, заглядзілася, схавалася ад ветру, каб з ім не ваяваць, як гэта робяць некаторыя суседзі, але каб прыхінуўшыся, перачакаць буру... Хто ведае, можа гэтая тактыка ляжыць у беларускай псыхіцы? А ройсты астаюцца далей ройстамі, і та ройстамі **беларускімі!**

**Р. С.**

„ахвотнікаў“ з Гішпаніі і гарантуе ненарушальнасьць яе граніц. Гэтак выглядае ўмова ў агульных рысах. Слабым месцам гэтай умовы ёсьць тое, што яна ўвойдзе ў сілу толькі тады калі Англія правядзе праз Лігу Народаў прызнаньне за Італіяй Абісыніі, а Італія адкліча сваіх „ахвотнікаў“ з Гішпаніі... Кажуць, што прызнаньне Абісыніі за Італіяй у Лізе Народаў будзе праведзена, (захват Абісыніі прызнала ўжо нават Чэхаславаччына і мае прызнаць Францыя), але ці Італія адкліча свае войска з Гішпаніі — гэта няведама. Быццам мае там пакінуць сваіх лятуноў. як „мэханікаў“, а можа і скончыць з „чырвонымі“ зусім перад прызнаньнем Абісыніі! Працэс прызнаваньня Абісыніі за Італіяй у Лізе Народаў будзе найвялікшай камэдыяй апошніх дзён! І гэту камэдыю праводзіць Англія, найбольшы вораг Італіі і ў тэй самай Лізе, якая пару гадоў таму аб'явіла эканамічную вайну (санкцыі) проціў Італіі!... Каб адыграць гэту „дэмакратычную“ камэдыю Ліга Народаў мае сабрацца 9 мая.

### Справа Чэхаславаччыны і акружваньне Нямеччыны.

Справа Чэхаславаччыны стала на парадку дня Эўропы. У прошлым нумары „Б. Фр.“ мы пісалі, што ключ да вырашэньня гэтай справы знаходзіцца перадусім у руках Нямеччыны і яна яе вырашыць так, як будзе для яе карысьней. Калі будзе карысьней падзяліць, яна яе падзяліць, калі будзе карысьней узалежніць усю, яна яе ўзалежніць або забярэ ўсю... Мы тады дайшлі да вываду, што падзел Чэхаславаччыны для Нямеччыны некарысны і яна захоча так ці інакш заняць яе ўсю. Гэтым Гітлер узяўбы ў клешчы Польшч, аддзяліўбы яе ад Вугоршчыны, адабраўбы ўсякія спробы і магчымасьці акружваньня Нямеччыны і дайшоўбы да Румыніі, а праз яе і да Украіны... Ня трэба забывацца яшчэ і аб тым, што цяпер Гітлер зьяўляецца спадкаемцам ня толькі дынастыі Гогэнцолернаў, але і Габсбургаў, а Чэхаславаччына, Вугрыя, часьць Румыніі і Югаславіі належаць якраз да спадчыны па Габсбургах! Мусіць дзеля гэтага і паўстаў у Румыніі моцны антынямецкі курс, які давёў да ліквідацыі г. зв. Жалезнай Гвардыі, якая была на ўслугах нямецкай палітыкі. Трэба прызнаць, што Румынія ёсьць цяпер найбольшай саюзьніцай Польшчы ў спыняньні нямецкага разгону на ўсход і паўднёвы ўсход. Калі-б Нямеччына захацела заняць Чэхаславаччыну, хто ведае, ці Польшч, Румынія і Вугрыя ня выступілі-б і не забясьпечылі-б сваіх інтарэсаў на тэрыторыі цяперашняй Чэхаславаччыны? І хто ведае, ці Саветы не пасьпяшылі-б на помач сваей саюзьніцы? Польшч праз сваю тэрыторыю савецкай арміі не пусьціла-б напэўна, але Румынія? Яна пару гадоў таму выражала сваю згоду на праход сав. арміі ў Чэхаславаччыну і цяпер, здаецца, гатова была-б гэтае зрабіць. Кажуць, што пры апошніх пагрозах па адрасу Чэхаславаччыны з боку Нямёччыны, над Румыніяй пралящела ў Чэхасл. 300 савецкіх бамбавікоў! Чым апроч аэрапланаў Саветы маглі-б даць помач сваей саюзьніцы — згадаць трудна; нам здаецца, што афіцыяльна Саветы на Захадзе ня выступіліб, бо вялікую маюць небясьпеку на Усходзе. Затым іхная помач агранічылася-б толькі да аэрапланаў, амуніцыі, аружжа і ахвотнікаў, так як у Гішпаніі. Цікава, што пасьля нарады францускіх міністраў (Даляд'е і Боннэ) з англійскім урадам у Лёндыне, Англія і Францыя маюць выступіць у Празе і Бэрліне з дыпляматычнымі дэмаршамі ў справе Чэхаславаччыны, радзячы Празе—уступчывасьць, а Бэрліну—умеранасьць! Дэмаршы маюць быць зроблены каля 10 мая.

А тымчасам унутры Чэхаслав. кіпіць. Найбольшую актыўнасьць праяўляюць славакі, якія жадаюць абяцанай чэхамі аўтаноміі і немцы, якія праз вусны свайго павадыра Гэнляйна зажадалі быць роўнапраўнымі грамадзянамі і сугаспадарамі Чэхаславаччыны! Гэнляйн заявіў, што немцы ніколі ня згодзяцца быць на правох меншасьці ў дзяржаве і ня згодзяцца на ўпрывілеёванае становішча чэхаў. „Ня хочам панаваць над чэскім народам, але і ня хочам, каб ён панаваў над намі“ — казаў Гэнляйн. Кажуць, што Гэнляйн робіць усё ў паразуменьні з Бэрлінам, а Бэрлін праз Гэнляйна праводзіць у Чэх. свае пляны, каб узалежніць Чэхасл. ад нямецкай палітыкі і дамагаецца, каб Чэхасл. парвала саюз з Саветамі. Быццам „рашучыя“ падзеі наступяць пасьля павароту Гітлера з Рыму. А тымчасам Англія заявіла, што памагаць Чэхаславаччыне ня будзе, Францыя адна ня выступіць, Саветы таксама, дык Чэхасл. шукае пасярэдніка, які-б яе пагадзіў з Ням. Вочы яе зьвярнуліся на Англію... Дык выглядае, што вайна, пакульшто, можа разыйсьціся як гэта кажуць, па касьцях...

### Гішпанія і Кітай.

Аб Гішпаніі скажам коратка: там паўстанцы пры помачы італьянцаў у красавіку моцна пабілі „чырвоных“, дзелячы іх на дзьве часьці. Тая часьць, што апынулася каля Мадрыту, ёсьць адрэзанай ад Каталёніі і Францыі і ёй асталося або біцца да сьмерці, або паддацца, бо ўцякаць цэлай масай няма куды. Здаецца, што „чырвоныя“ будуць біцца да канца, дзеля гэтага вайна яшчэ працягнецца нейкі час.

У Кітаі палажэньне завастрылася і вайна зацягваецца. Кітайцы, атрымаўшы помач з заграніцы і змабілізаваўшы свае сілы, пачалі змагацца ня толькі пры помачы партызанкі, але і фронтавых бітваў. У кітайскай моладзі прабудзіўся дух патрыятызму і яна ідзе ў бой з вялікай адвагай. Ахвяры ў кітайцаў вялікія, бо не стае ім тэхнікі, але і Японія мае шмат стратаў. Японія, відаць, не спадзявалася такой рашучасьці ў кітайцаў і такой доўгай вайны і цяпер стала перад дылемай: або пачаць перагаворы і выйсьці з вайны „з чэсьцю“, або вясьці вайну да канца. Здаецца, што Японія выбрала гэты другі выхад і будзе старацца ў дэцыдуючай бітве вырашыць лёс вайны. Адступіць з Кітаю і гэтым прызнаць сябе пераможанай не дазволіць Японіі яе нацыянальная чэсьць, як вялікай дзяржавы. Дык гэтым летам трэба спадзявацца крывавых і дэцыдуючых баёў у Кітаі. Як Кітай так і Японія аб'явілі ў сябе нацыянальную мабілізацыю.

Тактыка Японіі, здаецца, такая: не ганяцца за кітайскімі аддзеламі па ўсім Кітаі, не рабіць памылак Напалеона, але заняць выгодныя стратэгічныя пазыцыі і ў дагодны час даць генэральны бой кітайскай арміі. Магчыма яшчэ і тое, што Японія захоча ўцягнуць кітайцаў у нейкую пастку. Разьбіўшы кітайскую армію, Японія запрануе мір... Калі гэта пішам, разыйшліся весткі аб спробах замірэньня.

А тымчасам разгараецца штораз вастрэйшая дыпляматычная вайна паміж Саветамі і Японіяй. Гэтая апошняя закідае Саветам у цэлым радзе дыплямат. нотаў, што яны памагаюць Кітаю. Саветы, чуючы грозьбу з боку Японіі, спынілі да мінімум пасажырскі рух на сібірскай чыгунцы, правозячы тудою на Далёкі Усход войска, амуніцыю і ўсялякія ваенныя прылады.

### Розныя весткі.

Новы францускі ўрад на чале з прэм'ерам Даляд'е выяўляе шмат энэргіі ў справе ўваружэньня і ўпарадкаваньня фінансаў, якія ў Францыі прадстаўляюцца катастрафальна (36 мільярдаў буджэтнага дэфіцыту!) Уведзены новыя падаткі і асыгнавана дадаткова 4 мільярды 700 мільёнаў франкаў на ўваружэньне. Зроблены заказы і заграніцай, асабліва ў Амэрыцы, дзе ваенныя фабрыкі ідуць поўным ходам і работнікі зарабляюць па 70 цэнтаў за гадзіну. Прэм'ер Даляд'е і мін. загр. спраў Боннэ падчас сваей візыты ў Лёндыне зрабілі ўмову аб **вайсковым супрацоўніцтве паміж Англіяй і Францыяй,** прыгэтым каманда над сухапутнымі сіламі на выпадак вайны перайме Францыя, а над марскімі і лятунскімі—Англія. Пры ўсім гэтым Даляд'е не адкідае магчымасьці саюзу з Італіяй.

Канцлер Гітлер 3. V. прыехаў у Рым, дзе яго спатыкалі з вялікай пышнасьцяй. Ходзяць чуткі, што мае быць заключаны на выпадак вайны **вайсковы саюз паміж і Італіяй і Нямеччынай** і абгаворана ўсе справы, якія датычаць абедзьвух дзяржаў. З усяго відаць, што Мусоліні бліжэй стаіць да Бэрліну, чым да Лёндыну. Мусоліні сваею ігрою на два фронты ўзяў сапраўды ў свае рукі ключ вайны і міру. Ад яго цяпер залежыць ня толькі доля Чэхаславаччыны (катораяя так пасьпешна прызнала захват Абісыніі!) але і далейшых падзеяў на Усходзе. Мусіць дзеля гэтага і польская дыпляматыя так стараецца навязаць добрыя зносіны з Італіяй! Будучы пакт 4-х ці 5-х (з удзелам Польшчы) многа залежыць ад Італіі.

Паміж **Польшчай** і **Літвою** наладжваюцца паштовыя і іншыя зносіны. Ходзяць чуткі аб нездаваленьні літ. апазыцыі такой палітыкай ураду і аб магчымых выступленьнях проціў яго за тое, што навязвае зносіны з Польшчай.

Дня 2. V. адбыўся ў Бэрліне шлюб князя Людвіка Прускага, унука б. кайзэра Вільгельма II з рас. князёўнай Кірай, дачкою В. Князя Кірылы, прэтэндэнта да рас. трону. Будучыня пакажа, ці гэты шлюб не зьвязаны з **нямецкімі плянамі** адносна Расеі... А гэтыя пляны ідуць глыбока і далёка!

**У Палестыне** зрабілася настолькі горача, што Англія пастанавіла аддзяліць калючым дротам арабскую часьць Палестыны ад жыдоўскай! З гэтага відаць, што вайна там праводзіцца паводле ўсей вайсковай тэхнікі.

Апошнім часам пачала дзеяць нейкая тайная радыястанцыя, якая дзеіць на хвалі 29 м, і якую чуваць найболей на Палесьсі. Радыястанцыя вядзе ў вострым тоне (у рас. мове) кампанію проціў Сталіна і выступае ад імя „Саюзу Асвабаджэньня Расеі“.

# З Польшчы.

Польскае грамадзянства знаходзіцца ўсьцяж пад знакам вялікага палітычнага падзелу. У красавіку распаўся ОЗН на правіцу і лявіцу, прыгэтым з ОЗН-у выступіў фашызуючы „Obóz Młodej Polski“ і да 20 паслоў і сэнатараў, а такжа цэлы рад грамадзкіх дзеячоў. Закідаецца ОЗН-у, што ён моцна палявеў і паддаўся пад кіраўніцтва „Направы“, якую „Słowo“ заве масонскай мафіяй, а сам ОЗН празвала „Напрозонам“. З гэтага „палявеньня“ ОЗН-у для беларусаў карысьці ніякай ня будзе. (Направа гуртуе левых, лібэральных пілсудчыкаў, якія не маглі зьнесьці даўнейшага фашызуючага ОЗН-у на чале з палк. Коцам і прымусілі яго да ўступленьня).

У часе першамаёвых маніфэстацыяў у Варшаве і іншых гарадох былі забітыя і раненыя, як ахвяры змаганьня польскай правіцы з лявіцай. Гэта сьведчыць аб сапраўды вялікім падзеле ў польскім грамадзянстве!

Ходзяць чуткі аб зьмене ўраду ў Польшчы. На чале новага ўраду мае стаць цяперашні віцэ-прэм'ер Квяткоўскі, міністрам вайск. спраў ген. Соснкоўскій, а міністрам унутраных спраў ваявода Гражынскі, як кажуць, павадыр „Направы“.

## НАША ПОШТА.

**С. К. у Б.** Грошы (3 зл.) атрымалі, газэту выслалі на пададзеныя адрасы. Дзякуем за помач і спагаднасьць. Добра было-б, каб Вы прысылалі нам факты або агляды бел. жыцьця з Вашага цэнтру. Ваш артыкул аб ідэолёгічных кірунках моладзі мы захавалі ў рэдакцыйнай тэце, некалі выкарыстаем.

**Ад П. у П.** Грошы атрымалі, дзякуем. Вы пішаце, каб друкаваць газэту лацінікай, бо ў Вашай старане кірыліцу разумеюць толькі старэйшыя і то лічаныя асобы, а лацінку чытаюць добра. Вось-жа гэтага зрабіць ня можам, бо нашу газэту мы празначаем для тых, хто ўмее і лацінку і гражданку. Апроч гэтага гражданку мы ўважаем за наш **гістарычны** альфабэт, даўнейшы, чым лацініца. Прысылайце адрасы тых, якія ў Вашай старане могуць заінтарасавацца нашай газэтай.

**Р. С. у Г.** Рэдка выдаём газэту ня з нашай віны. Мы хацелі-б як найчасьцей, але не пазваляюць на гэта нашы матар'яльныя варункі. Помніце аб тым, што „Б. Фр.“ выдаецца ў складчыну. Калі будзе балей складчыкаў і складак, будзе выходзіць два разы ў месяц. Дзякуем за добрыя словы.

**К. М. у Р.** Вы мыляецеся. Прыглядайцеся лепш да белар. жыцьця. Чытайце бел. прэсу ўсіх палітычных кірункаў.

**А. Р. у К.** Грошы атрымалі. Не маглі вычытаць аднаго прозьвішча: Курыловіч ці Купыловіч? Другі раз пішэце выразьней, асабліва прозьвішчы і вёску.

**Л. К. у М.** Газэту ня спынім. Дзякуем за прывет і добрыя пажаданьні.

**Р. В. у Д.** Паквітаваньні на грошы мы падаём толькі тады, калі нас нехта просіць. Калі-ж газэта даходзіць, дык гэта значыць, што грошы атрыманы і ўсё ў парадку. Два зл. ад Вас атрымалі.

**Б. М. у С.** Вашым знаёмым газэты ня спынілі.

**Д. С. у П.** Аб каапэратывізьме будзем яшчэ пісаць. Цяпер мы заняліся, як бачыце, чым іншым: трэба тварыць бел. паліт. ідэолёгію. За словы спагаднасьці дзякуем.

**Гэтага нумару „Бел. Фронту“ некаторыя нашы чытачы, якія дагэтуль не адгукнуліся ані складкай ані пісьмом, не атрымаюць. Некаторым пасылаем газэту, спадзяючыся, што ў будучыне яны пачуюцца да абавязку прысла́ць нам падмогу і ўрэгулююць доўг.**

**Адм. „Бел. Фронту“.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкелёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.